МАРЫЯ МАРТЫСЕВІЧ

# САР
# МА
# ТЫ
# Я?

*Паэма*

Мінск
Выдавец А. М. Янушкевіч
2018

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
М29

*Ілюстрацыі Юліі Рудзіцкай*

**Мартысевіч, М.**
М29 Сарматыя : паэма / Марыя Мартысевіч. — Мінск : А. М. Янушкевіч, 2018. — 44 с. : іл.
ISBN 978-985-7165-82-7.

У эпісталярнай паэме Марыі Мартысевіч апісваецца гісторыя кахання, якая мела месца невядома калі і невядома дзе. Але яно і няважна, бо «Сарматыя» — гэта таксама гісторыя пра тое, што звычайна здараецца з людзьмі, якія наважыліся быць не такімі, як усе, у любыя часы і ў любой краіне. Сарматы — напаўміфічныя качэўнікі, апісаныя яшчэ Герадотам. Іх плямёны засялялі Паўночнае Прычарнамор'е ў III–IV ст. н. э. Праз тузін стагоддзяў ад іх пачала весці свой род шляхта Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай, адмяжоўваючыся такім чынам ад сялянскага саслоўя. Аўтарка паэмы спрабуе пачуць водгулле гэтага «старога добрага шляхецкага сарматызму» ў Беларусі XXI стагоддзя.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-7165-82-7**

Bo choć cały świat szeroki,
Niemasz niewiast nad Sarmatki.

**Władysław Syrokomla**

*Да цераз мой двор,*
*Да цераз мой двор*
*Да цяцера ляцела,*
*Да ня даў мне Бог,*
*Не судзіў мне Бог,*
*За каго я хацела.*

***Народная песьня***

I

Нават сынагогі тут — абарончага тыпу,
мне неяк страшна падумаць пра іх мячэты.
Вось, калі сьцісла, motto майго бэд трыпу:
хочаш быць зь іх мужчынам — бяры мачэтэ.
Час нерухомее ў жылах ад маразоў —
месяц бяз сну і пяць стагодзьдзяў бязь візы.
Рэчы тут маюць больш за адзін назоў.
Я буду трымаць цябе ў курсе.

Твая Алаіза.

## II

Сарматыя пачынаецца без абвяшчэньня вайны,
нападае на вока вогкім счарнелым зрубам.
Ці пратрываю тут ад вясны да вясны?
Тое, што нас не заб’е, мы пасьля палюбім.
Выскоквае з-за павароткі, як з канапель,
неспасьцігальная розумам, лабавая,
скаланае, нібыта ў лютым сьвятая купель
ці каровіна воспа, якая не забівае.
Сарматыя пачынаецца зь месца ў кар’ер,
несучы па ўхабе, змушае чапляцца за біла.
Ці застануся такою, якая цяпер?
Мы бяз памяці любім тое, што нас не забіла.

III

Сьнег тут, сястра, мае падвойнае дно.
Сьнегу тут вельмі многа трэба зімою,
бо пад сьнегам яны хаваюць сваё лайно,
здобранае  халерай і бубоннай чумою.
Ледзь азёры й рэкі закоўваюцца ў ільды,
тут паморак, вядома ж, суцішваецца адразу,
а яны паўсюдна радуюцца тады,
што супольнымі намаганьнямі спынілі заразу.
Ледзь адліга — яны ізноў, разявіўшы рот,
разглядаюць шклянымі вачыма свае бубоны,
як бараны, што пасталі ля новых варот.
Напішу пазьней пра іншыя забабоны.

IV

Іх мужчыны як соль — рарытэтнае белае зло.
Пасмакуеш раз — і больш не свая сама ты.
Ты пытаесься, што мяне сюды прывяло.
Калі праўду, то — срамата аднаго сармата.
Ведаеш, пальцы трэба, каб імі пхаць,
а яшчэ бывае, што кончыкі іх нямеюць.
Іх мужчыны — арэлі: яны ня ўмеюць кахаць,
але не кахаць яны таксама ня ўмеюць.
Мяне душыць гэты адчайна-жаночы край,
але сэрца знае сваё — замірай ды стукай...

Я разьдзялю зь ім пекла, зямлю і рай —
толькі сьпярша разьбяруся з адной сукай.

## V

Іх жанчыны не называюць сваіх імён —
толькі па бацьку, мянушкі або скароткі.
А прымусіш прамовіць — пачуеш крыштальны звон
і лагоду, нібыта зімой расьцьвілі стакроткі.
Яны кажуць, што іх хрысьцілі ў такіх часах,
што імёны іх драпаюць горла, нібыта стрэмка,
і ў вачах іхніх тоіцца незразумелы страх,
што такое імя ня вымавіць іншаземка.
Мне зусім невідочная гэтая прорва эпох,
што  дарослых завуць тут неяк інакш, чым дзетак.
Калі б я была першай, якую стварыў Бог,
то такія імёны былі б у Эдэме ў кветак.

VI

Іх сыны пакідаюць рана сялібы бацькоў,
вылізаныя кат*а*мі, вывучаныя пап*а*мі.
Яны любяць мёд і брусьніцы да праснакоў,
а кісель аўсяны могуць усмоктваць пупамі.
Маці адведваюць іх па сьвятых днях,
ахінаюць футрам і абдымаюць дрыготка,
а пасьля расказваюць, седзячы зь імі ў санях,
што з клубком каля печкі зноў вырабляла котка.
Потым паплачуць, як хутка падрос памёт:
вусы над губой прабіваюцца поўсьцю кацінай.
Я прадаю ім на рынку брусьніцы й мёд,
разумеючыся на мігах і кепскай лацінай.

VII

Мяне лічаць сваёю, праўда, на свой капыл.
Напішу, пакуль на дварэ раскашуе зьліва.
Тут прынята на людзях я.аць кароў і кабыл —
але важна рабіць гэта годна і шанаўліва.
Мне няспынна кажуць, што са мною ня так:
я высокая, гучна сьмяюся, нашу каралі.
Яны кажуць, мой розум — гэта трывожны знак,
што ўва мне бракуе прыстойнасьці і маралі.
Але госьця, на шчасьце, тут асаблівы чын,
бо мясцовым за розум — выгнаньне. Або ў магілу.
Ну, а так я, лічы, свая тут. Каб мела чым,
давялося б ісьці і прылюдна я.аць кабылу.

## VIII

Уяўляеш, яны выбіраюць сабе каралёў,
галасуюць, каго не любіць і чым сьнедаць сёньня.
Калі сьнег аблазіць з чорнага мяса палёў,
тут надыходзіць вясна і пара на соймы.
Я паехала падзівіцца на гэты цуд,
на свабоду, якой ніколі ня ведала дома,
на братэрства і роўнасьць, якія так цэняць тут...

Не, усё як ва ўсіх: папойка — імша — пагромы.

## IX

Пры ягоным плячы сядзіць паляўнічы сокал.
Ён вядзе рукой — і сокал ляціць высока.
Кідае здабычу долу, каб зграя забрала.
Дзюба такая сьмешная пад птушыным забралам.
Шлюб тут — палітыка, а не юначы выбрык,
але кожная незамужняя можа выбраць
сініцу ў руках ці жорава ўдалечы.

А я выбіраю сокала пры ягоным плячы.

## X

Лацінскай ці грэцкай веры ты — тут няважна,
іх мараль наагул ня мае дачыненьня да Бога.
Яны тут паводзяцца так, як дзяўчынка скажа,
кірпатая, куца стрыжаная, росту малога.
Гаспадыням належыць на золку на рынку стаяць
і слухаць, што шэпча гандлярцы рыбаю тая дзяўчынка,
і калі не дачуеш, то ты не сарматка, а бл.дзь,
што сябе прапануе сялянам за лусту шынкі.
Госпад іх пляжыць то г*а*дамі, то — градам,
але вер мне: гэта — невынішчальныя людзі.
Дзяўчынка з гандляркаю будуць іхнім урадам,
нават калі іх краіны на мапах ня будзе.

## XI

Я ніколі ня бачыла іншай краіны, дзе
гэтак часта пытаюцца: хто мы й куды ідзем? —
і шалеюць гэтак, чуючы ад мудрацоў,
што яны — дурачкі  на дарозе ў канец канцоў.
Вельмі часта бывае, што гэтыя мудрацы
зьвінавачваюцца ў празьмерным спажываньні мацы
і выганяюцца з гораду пад гарматы.
На іх месца прыходзяць іншыя мудрацы,
якія гавораць ім, што яны — малайцы,
бо мудрэц — гэта той, хто хваліць ва ўсім сармата.

## XII

Іх паненкі, калі вайна, ідуць ваяваць.
Ну, ня ўсе зь іх, а толькі як бацькі няма ці брата.
У баі сармат — напятая цеціва,
А дуга, што яе напінае, — дачка сармата.
Гойсае лесам вершніца дзікай красы,
конь паміж ног і спадніца ўгару без прыліку,
і ўланскім пер’ем за ёю лятуць валасы
колеру нешліфаванага сэрдаліку.
Як Дыяна з Дэмэтрай — то з кушам, то з капачом,
і да імшы , як павачка, штонядзелі…
Усё, што яны не зваююць сармацкім мячом,
прывядуць у палон на аркане сармацкай кудзелі.

## XIII

Вечарамі я ў гэтым доме зусім адна,
шыю, пішу ці чытаю каля вакна,
а ўначы — паляўнічы турызм, і я зноў на ловы:
сьню, нібы я лісіца, і давідна
на мяне палюе вершнік сьветлагаловы.
Але промень сьвітанку кранаецца шыбы ледзь,
сон люструецца: я мысьліўка, а ён — мядзьведзь.
Скамянеўшы, стаю, не магу гнаць яго к сілу я.
Бо мне больш ня будзе чаго так няўсьцерп хацець,
калі я яго для сябе нарэшце ўпалюю.

XIV

Вільня — важна. Вільняй, сястра, прырастае сармат.
Вільняй у спрэчках ён ставіць і шах, і мат,
і тым больш рашуча, чым менш ён у спрэчках сільны.
Вось скажы сармату, што дом у яго — казэмат,
ён табе з пляча: не адразу будуецца Вільня.
Вільня сама — найпякнейшая зь існых Мэк,
але й найбруднейшая з тых, што стварыў чалавек,
пыльна, бы ў Вільні — я б гэтак сказіла фразу.
Я кручу галавой — і круціцца ў галаве:
добра, што і руйнуецца ў іх яна не адразу.

XV

Хто такія сарматы? Даўно нежывы народ.
Для тутэйшых — праб*а*цькі, менш сорамныя за скіфаў.
Каб жа прыхадзень з Марсу зваліўся каму ў гарод,
той адкінуў бы плуг і запрогся б у праўку міфаў.
Бо яно самавіцей — паходжаньне з вышыні:
марсіянін і шляхціц — дзьве цноты ў адной асобе.
Калі марыш прыдбаць нябесныя карані —
хай прышэсьце з Марсу. Абы не нашэсьце зомбі.
Зомбі — гэта сьмярдзючая падла і гніль зямлі,
што ўзьнялася з магілаў і, не ўваскросшы, ходзіць.
Горш за зомбі быць можа толькі адно — маскалі:
вось ад іх дакладна ніхто тут ня хоча паходзіць.

## XVI

Ці сягаюць мяне цікавосткі з радзімы? Ані.
Мы, як мурам, ад вас абароненыя барамі.
Але гэта няважна. У першыя цёплыя дні
я дазналася: бэз тут буяе пры кожнай браме.
Ты пыталася неяк, які ў іх галоўны стыль.
Тут жаўнеры Лаёлы, дзе можна, узводзяць Іль-Джэзу,
але лепей за храмы ў іх тут вырастаюць кусты:
на радзіме я буду тужыць па фартэцыях бэзу
і каменьчыках чорных — разынках у сьветлых мурах,
нібы сьцежкі пратупалі вожык, барсук і заяц
у густых, непраходных, надзейных тутэйшых барах,
што з усходу і захаду край гэты абараняюць.

## XVII

Дарогі — лекі, лепшыя за парашкі.
Дарогі пятляюць, змотваюцца ў маткі
кішкамі ў трыбуху рэнэсанснага трупа.
Сьпявай мне — і я скажу табе, хто ты такі.
Ты — гэта тое, што ўмее твая трупа.
Сукно амазонкі грэе цела й душу.
Аўстэрыя, дзе я ўсё гэта зараз пішу,
поўніцца падарожнымі цыркачамі.
Удзень мяне апаноўвае іхні шум.
Але запытай, хто валодае маімі начамі.

## XVIII

Я засынаю й бачу ў кашмарным сьне,
як ён кашулю разьвязвае не на мне.
І шэрыя плямы поту на яе палатне
не ад таго, што пот выцякаў зь мяне.
І памятасьць гэтая на густым дзірване
не пада мною, і гэта не празь мяне
драпіны чырванеюць на ягоным сьцягне.
І шурпаты рот, што раменьніц маіх не кране,
не пра мяне прамянее ўсьмешкаю, не.
Прачынаюся поруч. Не — пра мяне, мяне.
Гэта ўсё пра мяне. І расплата не праміне.

XIX

Мова іхніх дзяўчатак — набор таямнічых сыляб,
як урок, задаваны ў русалчынай школе на лета.
Дыглясія дзяцінства, і я сёньня шмат аддала б,
каб вось гэтак шаптаць зь імі ў коле заклёны й сакрэты.
Дзьмухаўцовую лялькай пад шклом пахаваны сакрэт,
і гучыць над ім трэнас — як сура, як мантра, як прана.
Гэта лета адпушчана ім як апошняе зь лет,
калі ім так бясхмарна, цнатліва і беспакарана.

## XX

Мора сармата — гэта пара партоў,
у якія яго не пускаюць без пашпартоў,
і калі яго выпускаюць зь цёмнай каморы,
ён як абвараны бегае ад мора да мора.
Рытуал прывітаньня з морам, разьвітаньня з морам —
мора наўпрост кіруе ягоным гуморам.
Тыдзень ляжыць на хвалях — і год жыве.

Мора сармата разьліваецца ў яго ў галаве.

XXI

Мода сарматаў — вычасаныя хвасты
нетутэйшых жывёлін, скручаныя вянкамі.
Гэта трэба насіць на шыі, як хамуты,
а рукавы аздабляюць яны плаўнікамі
найдзівосьнейшых рыбін, якіх толькі носіць вада.
Тут глыбіню ўсяго вымяраюць куфры.
Пекната сармата — гэта яго брыда,
як блыха, што гнязьдзіцца ў сьпёку ў парадным футры.

## XXII

Сьмерць сармата — гэта вяршыня яго жыцьця.
Застаўшыся без дыханьня і сэрцабіцьця,
сармат пазбываецца ворагаў і заганаў.
Найсаладзейшы ласунак у іх — куцьця.
Здохні — і зробісься зацным ім і каханым.
Сьмерць тут — твой першы баль на апошняй мяжы,
таму кожны скажа: пакуль ты на куражы,
лепш дабрахвотна легчы ў зямлю сырую.
Найлепшыя дрэвы тут берагуць на крыжы.
Але не хвалюйся. Нават не варажы —
сьмерці сваёй я сама ім не падарую.

## XXIII

Уваходзячы ў жонку, драпежна рычыць  сармат,
бо а раптам яго мы за мужыка не палічым.
Дыхатамія: целам сармат — прымат,
а душою — леў з чалавекападобным аблíччам.
Разам з тым тут мараль не вітае крыклівых жанчын.
Для сарматкі распуста — цяжк*а*я духоўная праца.
Тут жанкам і дзяўчатам належыць бязгучна ўначы
аддавацца і каяцца ў гэтым, і зноў аддавацца.

## XXIV

Знаеш , сястра, не адведвай мяне — тут,
цяжка сказаць, як цябе сустрэнуць яны.
Тут усіх, каго не апісвае іхні статут,
абвяшчаюць адзінаўтробнікамі сатаны.
Пасівееш: дзень зь імі залічваецца за два,
гадавыя кольцы на шыі — мая прыкмета.
Прачытаеш на ўезьдзе: хлеб усяму галава, —
але тут усяму галава — галава Бафамэта.
Бог і д’ябал тут батляцца ярасна ў кожнай душы,
з гэткім прыходам не да гасьцей ім, хані.
Не прыяжджай сюды, лепей часьцей пішы;
ўсё адно тут няма чым займацца, апроч каханьня.

## XXV

То паводка, то суш, то задуха, то сівер дзьме;
набрыняўшы, нібы пшаніца, надвор’ем і часам,
я сасьпела: цяпер я зь імі ў адным вязьме,
сьціснутая квяцістым пэрсыдзкім пасам.
Тут, у сьцірце, ямчэй, каб колас пры коласе:
малацьба ламае хрыбты найперш адзіночкам,
і нясьцерпная прага быцьця як усе пакрысе
праразаецца ў іх наркатычным варонім вочкам.
Знаеш, яно закалыхвае, як дрыгва,
іхняе «з намі Госпад» і «мы — сіла»,
але ім гэта трэба — не заўважаць жніва,
што іх цэпам ад веку век на гумне мясіла.

## XXVI

Мука
прасейваецца церазь сіта так доўга,
што мая рука
нібыта зраслася зь сітам.
Хлеб тут — аснова, але вынаходжаньне чоўга
можа здарыцца з кожным — сытым або нясытым.
Нейкія плашкі мэталу пападалі зь неба,
сяляне набілі ў іх дзірак, зрабілі жорны,
і калі ў мяне прыгарае кругляк хлеба,
я нібы чую смурод ад іх чарапоў чорных.
У любых няясных абставінах прасейвай муку,
каб, як грудзі з гарсэту, зь дзяжы выпірала цеста.
Калі анямела рука, я мяняю руку,
нібы ў царкве зь вянцом стаю за нявестай.

## XXVII

Нешта там у агні, у дрыгве,
нешта ня тое з совамі,
армагедон і пох.й —
якая розьніца, якімі словамі
апісваць канец эпохі?
Нехта п’е, нехта моліцца,
нехта каўчэг габлюе,
нехта складае прысягу
на вернасьць новаму краю.
Я таксама думаю:
важна хутчэй, што раблю я,
напрыклад, валасы ягоныя
пальцамі перабіраю.

## XXVIII

Быццам пара. Усё ярчэйшы Птушыны Шлях,
гаспадары падпалілі траву на палях,
за плячыма — чорнае ляда, у твар — пажары;
найземляробнейшая з усіх мною знаных шляхт —
я сказала сабе: пакуль ім відно  Стажары.
Ужо Яськлі на небе напоўненыя аўсом,
у сузор'і Рыбаў пячэцца гефілтэ сом,
і Вялікі Воз ля заезьні гальмуе юзам,
і вось-вось за пагоркам пабачу бацькоўскі дом...

Але ўраньні ён будзіць мяне — і я застаюся.

## XIX

Квохча, стогне цяцера на багне —
надта зімна ўжо на дварэ.
Бог дае нам, каго мы прагнем,
але дорага за гэта бярэ.
Маці Божая з Мансэрату
пачарнела ад нашых хоцек.
Мне самой карцела,
я сама вінаватая,
што гняздую на гэтым балоце.

XXX

З вогнішча — ліст. Вогнішча — як з куста.
Яны мне сказалі, адна я вартая ста
тых, што на шкоду заломваюць вецьце рабіне.
Сьведак гэтулькі — не давялося кідаць у стаў:
заўтра ставяць на стос пры старой касьцельнай драбіне.

З таго, што я зразумела, мая віна
ў тым, што ваш кожны рух для мяне — навіна,
што прыгрэлася ў золкім Эдэме падступнай зьмяёю.
паглядала наўкола саміцаю цікуна —
але я цікавала хіба за ўсьмешкай тваёю.

Я не запомніла іншых прыкмет, апрача
шнару таго, што ад смочкі ў цябе да пляча,
але вось, апяклася, як Галя з тою сасною.
Над ваколіцамі надоўга завісьне чад:
будзеш згадваць мяне, калі падгарыць мясное.

К*а*ту, каб перш забіў, заплаці пабольш.
Мабыць,аднойчы б я згатавала боршч,
стала б адрозьніваць булку ад каравая.
Не, ты ня плачаш — гэта асеньні дождж
з вуснаў тваіх вусны мае змывае.

Кнігі ды рукапісы адашлі маім,
можа, хоць гэта  неператворыцца ў дым:
хай чытачы рассудзяць, хто тут падсудны.
Перш чым зрабіцца ў вакне тваім ромбам сьлюды,
прысак мой ляжа ў зямлю і нацэдзіць вады
для той самай, блізкай  да нашага дому студні.

Не сумуй.
Бывай.

Але ўсё-ткі —
што розьніць булку і каравай?



## Postscriptum

— Salve, carissime! Percensuistine manuscriptum, quod tibi mense superiore misi?

— Salve tu quoque, amicorum optime! Opus istud plus quam semel perlegi.

— Interestne vere tui id?

— Quomodo in manus tuas pervenit?

— Francfordiae in mercatu emi a venditrice quadam strenuissima.

— In mercatu librorum?

— Ibi quidem. Sed vero pastilla illic vendebat. Placentas quasdam slavonicas. Forte ita evenit, ut de hoc manuscripto sermo inferretur. Dixit aviam suam id scripsisse.

— Aviam ejus? Mirabile auditu. Incredibile mihi videtur haec mulier progeniem reliqui.

— Rescivistine quiddam de huius opusculi genetrice?

— Saepe peregre fuisse videtur, descriptioni morum gentium dedita. Quaestum tamen faciebat, ut opinor, speculatione. Ut omnes illius generis.

— Speculatione? Quid potest mulier omnino speculari?

— Efficitur ex litteris quibusdam concremari ut malefica alicubi in orientis partibus remotis.

— Putas eam posse vivam aliquo modo evasisse?

— In litteris iisdem multa mirabilia incongrue describuntur. Mea sententia forte omnino numquam vivere potuit. Possisne hanc venditricem nunc invenire?

— Ventumne in campo quaeram? Rei summam dic mihi, quaeso: num edemus hoc?

— Textus vero magni interest, sed huius rei tempus nondum esse puto. Nunc non opportunum videtur.

— Sed quando? Post annum an duos?

— Posterius, posterius admodum.

*Менск — Вільня — Горадня — Азалніекі — Бронная Гара,*
*сакавік — верасень 2018 году*

Гэтая кніга пабачыла сьвет дзякуючы збору сродкаў праз плятформу ulej.by.

Дзякую сябрам, якія натхнілі на выданьне паэмы «Сарматыя» асобнай кнігай і надалі ўпэўненасьці, што ўсё атрымаецца.

Дзякую Ганьне Соўсь (svaboda.org), Андрэю Хадановічу (budzma.by), Аляксандры Дорскай і Адэлі Дубавец (bookster.by) і Ціхану Чарнякевічу (lit-bel.org) за цікавасьць да кнігі.

Дзякую Алене Гапавай за кнігу «Женщины на краю Европы», прэзэнтаваную калісьці. Дзякую Віталю Былю за навуковыя працы пра паляваньне на ведзьмаў у Вялікім Княстве Літоўскім, якія натхнілі на фінальную сцэну. Дзякую Аляксандру Фядуту за магчымасьць працаваць з кнігай успамінаў Антонія Эдварда Адынца, якая заразіла сармацкай ліхаманкай, што не адпускае дагэтуль.

Дзякую самым шчодрым мэцэнатам выданьня, якім дэдыкую наступныя сылябічныя радкі.

*А. Ш.*
Наша з табой сяброўства, шаноўны Антоне,
У каралеўскай вадзе і той не патоне.
Амстэл з Дунаем шумяць у тваёй оперы,
Ды вытокі ейныя — у Сьвіслачы і Дняпры.

*А. К.*
Вучоным відочная і зь імі паэтам
Гэтая хімія між табою і сьветам
І, пра што нам з табою ясна даўно, май бой,
Між літаратураю фізыка і табой.

*К. Б.*
Спачатку мяне й цябе аб’ядноўваў Дантэ.
Ды лёс зайграў каму што: allegro, andante.
Ты хочаш знову пісаць, ды трымае мова,
Я ж хачу тваёй моцы пачынаць ab ovo.




Паспалітаму люду дзеля карысьці й радасьці,
Шаноўнай пані Паэтцы дзеля ўшанаваньня —
Не пазьней, чым міне сакавіцкае сьвята вялікае,
Дню нашай Волі (дагэтуль забранай) прысьвечанае —

Абавязуецца нашая Крама шляхецкіх памёнтак,

Друкамі файнымі шматкаляровымі,
на гэтай старонцы разьмешчанымі,
Выдаць розныя годныя рэчы — цішоткі жаночыя,
таксама мужаскія,
Торбы для вашых патрэб гаспадарскіх ды іншых,
Карткі паштовыя, якімі сяброў мы далёкіх прывітваем.

Каб атрымаць сабе на патрэбу гэтыя добры —
дашліце замову,
Дакладна пазначыўшы рэчы, памеры, фасоны і друкі,
і колькасьць
Нам на паштовую скрыню, завецца якая:
panbrat.krama@gmail.com

Як золата пералітоўваецца агнём,
каб стаць яшчэ залацейшым,
І каб ня мець ніякай заганы ў сабе —
гэтак і нашая крама бярэ
Найлепшыя вытачкі, фарбы й тканіны,
дбайна зь імі працуе,
Каб выдаць найдасканалы прадукт,
Пра які нам ня сорамна будзе сказаць —
ЯКАСЬЦЬ, ВАРТАЯ ШЛЯХЦІЦА!

Друк 1




Друк 2




Друк 3




Друк 4




Друк 5



*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Мартысевіч** Марыя Аляксандраўна

# САРМАТЫЯ

Паэма

16+

Адказны за выпуск *Андрэй Янушкевіч*
Рэдактар *Уладзь Лянкевіч*
Камп’ютарная вёрстка *Юлія Андрэева*
Дызайн вокладкі, ілюстрацыі *Юлія Рудзіцкая*

Падпісана да друку 15.12.2018. Фармат 84x108/32.
Папера Enzo Classic. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 2,54. Улік.-выд. арк. 0,85.
Наклад 1000 асоб. Заказ 2795.

Індывідуальны прадпрымальнік
Янушкевіч Андрэй Мікалаевіч.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы і распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў № 1/218 ад 18.03.2015.
Вул. Шафарнянская, 3/135, 220125 г. Мінск.
https://januskevic.by

Таварыства з дадатковай адказнасцю «Новапрынт».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі
выдаўца, вытворцы і распаўсюджвальніка
друкаваных выданняў № 2/54 ад 25.02.2014.
Вул. Геалагічная, 59, к. 4, п. 10, 220138 г. Мінск.